№ 63 (3906)

15 жніўня 2014 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

**Колькасць насельніцтва Беларусі на 1 ліпеня 2014 года склала 9 мільёнаў 469 тысяч 200 чалавек. На 1 студзеня 1995 года ў краіне налічвалася 10 мільёнаў 194 тысячы чалавек. Чаму нас становіцца ўсё менш і менш? Ці ёсць перспектыва ў нацыі, якая за няпоўныя дваццаць гадоў згубіла амаль 725 тысяч чалавек?**

БЕЗ РЭТУШЫ



*Валерый КАРБАЛЕВІЧ*

## Апартунізм Вялікай Брытаніі

**Прайшло ўжо два тыдні, як з'явілася шмат у чым адметнае інтэрв'ю амбасадара Вялікай Брытаніі ў Беларусі Бруса Бакнела парталу Naviny.by. Я чакаў бурнай рэакцыі экспертаў і палітызаванай публікі, але яе чамусьці амаль не было. Ці то час летніх адпачынкаў на гэта паўплываў, ці на тле вострага канфлікту паміж Расіяй і Захадам тэма дачыненняў ЕС з Беларуссю ў новых умовах, якую ўзняў брытанскі дыпламат, неяк губляецца.**

**Як вядома, галоўная праблема ў адносінах Беларусі з Еўропай — пытанне правоў чалавека. Але дагэтулешні досвед паказвае, што падчас вострага канфлікту паміж Захадам і Расіяй тэма каштоўнасцяў адыходзіць на другі план. На першае ж месца вылучаецца пытанне геапалітыкі. Так, напрыклад, адбылося пасля расійска-грузінскай вайны 2008 года, калі Беларусь не прызнала незалежнасці Паўднёвай Асеціі і Абхазіі і паміж Мінскам ды Бруселем пачаўся дыялог.**

**На нешта падобнае беларускае кіраўніцтва разлічвала і цяпер. Яно спадзявалася, што на тле вострага супрацьстаяння паміж Захадам і Расіяй, пры адносна нейтральнай пазіцыі Беларусі па ўкраінскім пытанні, ЕС адкіне праблему палітвязняў і пачне паўнавартасны дыялог з Мінскам. Не сказаць, каб гэтыя планы здаваліся зусім марнымі. Узровень кантактаў паміж Беларуссю і Еўрасаюзам павышаецца. Нядаўна Мінск наведаў міністр замежных спраў Літвы Лінас Лінкявічус.**

**Але ўсё ж працэс размарожвання адносін ідзе няхутка. Чаму? Часткова адказ на гэтае пытанне і даў у сваім інтэрв'ю амбасадар Вялікай Брытаніі ў Беларусі Брус Бакнел. Праўда, незразумела, ці выказванні брытанскага пасла — гэта дыпламатычная лінія ўсяго ЕС, ці толькі пазіцыя Лондана. У любым выпадку заявы сп. Бакнела вельмі паказальныя, яны сведчаць пра новыя настроі, якія з'явіліся ў палітычных і дыпламатычных колах Еўропы апошнім часам.**

**Што ж сказаў брытанскі амбасадар? Вось некаторыя фрагменты інтэрв'ю.**

**Вялікая Брытанія прызнае зону эксклюзіўных інтарэсаў Расіі і не збіраецца туды моцна лезці.**

***«Трэба працаваць асцярожна і паступова. Не будзе рэзкай змены нашай пазіцыі. Калі мы будзем дзейнічаць у спешцы, спрабуючы паскорыць тэмп паляпшэння адносін, гэта, верагодна, не будзе ўкладам ва ўмацаванне стабільнасці ў Беларусі. Гэта не будзе ні ў чыіх інтарэсах, таму што гэта можа прыйсціся недаспадобы Расіі, а мы не хочам дэстабілізаваць такім чынам сітуацыю ў Беларусі і рэгіёне. Той факт, што ў Беларусі знаходзяцца расійскія ваенныя базы, таксама прымушае нас працаваць над паляпшэннем адносін з Беларуссю асцярожна, павольна і паступова.***

***Мы не можам думаць у катэгорыях гульні з нулявой сумай... Беларусь з'яўляецца часткай аднаго ваеннага саюза з Расіяй... Беларусь — цесны саюзнік Расіі... Апошняе, што мы хочам зрабіць, гэта ўзмацніць напружанасць паміж НАТО і АДКБ... І мы не хочам рабіць нічога, што пашырыла б канфлікт у рэгіёне. У нас ёсць свой ваенны альянс, у Беларусі — свой. Таму мы павінны дзейнічаць вельмі асцярожна, каб не дапусціць эскалацыі напружанасці ў рэгіёне».***

**Апёкшыся на Украіне, цяпер Еўропа будзе значна больш асцярожна падтрымліваць працэс дэмакратызацыі і еўрапеізацыі Беларусі.**

**Трэба мець на ўвазе, што Вялікая Брытанія ў параўнанні з іншымі членамі ЕС займае пазіцыю рашучага супрацьдзеяння Расіі. І тым больш знамянальны яе, скажам так, апартуністычны падыход да размарожвання адносін з Беларуссю. Калі зрабіць пераклад з англійскай дыпламатычнай мовы на звычайную, то можна зрабіць наступныя высновы.**

**1. Захад арыентаваны на палітыку ўлагоджвання Расіі нават пасля таго, што яна зрабіла і працягвае рабіць ва Украіне. У працяглай канфрантацыі з ёй там ніхто не зацікаўлены. Таму робіцца ўсё, каб лішні раз не раздражняць Маскву.**

**2. Вялікая Брытанія прызнае зону эксклюзіўных інтарэсаў Расіі і не збіраецца туды моцна лезці. А менавіта гэтага і дабіваецца Масква ад Захаду. Знакамітая «перазагрузка» адносін Расіі з новай амерыканскай адміністрацыяй Абамы якраз і палягала ў тым, што Злучаныя Штаты прызнаюць постсавецкую прастору зонай расійскіх інтарэсаў і абяцаюць не падштурхоўваць тут дэмакратычныя перамены.**

**3. Беларусь — гэта расійская дзялянка. Любыя спробы ЕС развіваць з ёй адносіны павінны адбывацца калі не са згоды Масквы, то абавязкова з улікам інтарэсаў і пазіцыі РФ.**

**4. Апёкшыся на Украіне, цяпер Еўропа будзе значна больш асцярожна падтрымліваць працэс дэмакратызацыі і еўрапеізацыі Беларусі. Цяпер Вялікая Брытанія зацікаўлена «ва ўмацаванні стабільнасці ў Беларусі». Бачыце, якая знаёмая рыторыка. Бо дэмакратычныя перамены тут выклічуць дэстабілізацыю ва ўсім рэгіёне. А тут расхлёбаць хаця б украінскі крызіс.**

**Сумна ад усяго гэтага. Можа, і сапраўды Беларусь страціла свой гістарычны шанец вярнуцца ў Еўропу, упусціла момант, калі яна магла стаць дэмакратычнай краінай?**

СКАНДАЛ

## *Сілавікі затрымалі другога члена Савета Рэспублікі*

Учора за зачыненымі дзвярыма прайшла пазачарговая сесія верхняй палаты Нацыянальнага сходу. У залу не пускалі нават журналістаў дзяржаўных СМІ. Вечарам з паведамлення Следчага камітэта высветлілася, што "сенатары" далі згоду на ажыццяўленне крымінальнага пераследу яшчэ аднаго свайго калегі — гендырэктара «Віцебскай бройлернай птушкафабрыкі» — Ганны Шарэйка.

*«У цяперашні час следчымі атрыманы доказы датычнасці кіраўніка названага прадпрыемства да здзяйснення злачынства, прадугледжанага ч.3 арт.424 (злоўжыванне службовымі паўнамоцтвамі) КК. У сувязі з тым, што дадзеная службовая асоба з'яўляецца членам Савета Рэспублікі і карыстаецца дэпутацкай недатыкальнасцю, матэрыялы, якія даказваюць яго дачыненне да здзяйснення супрацьпраўных дзеянняў, былі прадстаўлены ва ўстаноўленым парадку на пазачарговую сесію Савета Рэспублікі»,* — сказана ў паведамленні СК.

Следчым камітэтам вынесена пастанова аб затрыманні гендырэктара віцебскага прадпрыемства. Месяц таму, як вядома, прайшла інфармацыя аб пазбаўленні недатыкальнасці і затрыманні яшчэ аднаго члена Савета Рэспублікі — Віталя Кастагорава — магілёўскага бізнесмена, дырэктара ЗАТ «Палітэкс» — буйнога вытворцы нятканых тэкстыльных матэрыялаў.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ЖНІВО-2014

# Будзем з хлебам!

## *На сённяшні дзень у Беларусі намалочана больш за 9 мільёнаў тон збожжа*



Ураджайнасць — пад 40 цэнтнераў з гектара. Ёсць надзея, што ў 2014 годзе агульны намалот (разам з кукурузай) дасягне 10 мільёнаў тон. Акрамя таго, плануецца сабраць 1,6 мільёна тон бульбы, 4,7 мільёна тон цукровых буракоў, 918 тысяч тон агародніны. Што ж, сельскія працаўнікі заслугоўваюць пахвалы. Віншуем!!!

УЧОРА

## *У сталіцы эвакуіравалі 36 чалавек*




Учора раніцай моцны лівень заліваў Мінск на працягу гадзіны, было зафіксавана 25 месцаў падтапленняў. Падраздзяленні Міністэрства па надзвычайных сітуацыях прыцягваліся для аказання дапамогі людзям: з салонаў грамадскага транспарту, які патрапіў у зону затаплення, эвакуіравалі 36 чалавек. У асобных месцах дапамагалі кіроўцам у буксіроўцы іх аўтамабіляў у бяспечныя месцы. Дождж перашкодзіў многім мінчанам своечасова дабрацца на работу.

Дарэчы, у сталіцы за першую палову жніўня выпала 88 міліметраў дажджоў. Мінск ужо перавыканаў месячную норму ападкаў, якая складае для апошняга месяца лета 81 міліметр.

ЗА ПАРТАЙ

## *Беларускамоўныя школы закрываюцца*

*Міністр адукацыі абяцае, што ў новых школах, якія адкрыюцца сёлета, навучанне будзе весціся на беларускай і рускай мовах.*

Сёлета ў Беларусі было закрыта 87 малакамплектных школ, у якіх вучыліся ад 10 да 30--40 вучняў. *«Яны неэфектыўныя. Неабходна ствараць лепшыя ўмовы для навучання, і, безумоўна, лепшыя ўмовы будуць у новых школах, у якія пойдуць вучыцца дзеці з закрытых школ»,* -- адзначыў міністр адукацыі **Сяргей Маскевіч.** Пры гэтым ён канстатаваў, што ў большасці закрытых школ навучанне вялося на беларускай мове.

Паводле слоў Маскевіча, да пачатку навучальнага года ў Беларусі адкрыюцца чатыры новыя школы ў агульнай складанасці на 3 тысячы навучальных месцаў: дзве ў Мінску і па адной -- у Гродне і Брэсце. *«Гэта самыя сучасныя школы, дзе навучанне будзе весціся на беларускай і рускай мовах, у адпаведнасці з нарматыўнай базай, якая існуе сёння, у адпаведнасці з пажаданнямі бацькоў»,* -- падкрэсліў ён.

Як адзначыў міністр, у ведамстве не бачаць праблемы ў выбары мовы навучання школьнікаў.

НАДВОР'Е

## *Даждліва і цёпла*

У бліжэйшыя суткі атмасферныя франты з паўднёвага захаду Еўропы яшчэ захаваюць свой уплыў. Чакаецца воблачнае з праясненнямі надвор'е. На большай частцы тэрыторыі пройдуць кароткачасовыя дажджы, ноччу па паўднёва-ўсходняй палове, днём у асобных раёнах краіны прагрымяць навальніцы.

У начныя гадзіны па паўднёва-ўсходняй палове краіны месцамі прагназуюцца моцныя залевы. Вецер няўстойлівы слабы, пры навальніцах парывісты, ноччу ў асобных раёнах моцны. Тэмпература паветра сёння днём ад + 21°С да +28°С. Атмасферны ціск істотна не зменіцца.

У **ноч на суботу** пры павышаным фоне ціску ападкаў па краіне не чакаецца, мінімальная тэмпература ноччу складзе +9...+16°С. У начныя і перадранішнія гадзіны дзе-нідзе можа згушчацца туман. Днём малаактыўны франтальны раздзел выкліча месцамі па краіне кароткія навальнічныя дажджы, тэмпература будзе вагацца ад 20 да 27 градусаў цяпла.

У **нядзелю** чарговы атмасферны фронт з Заходняй Еўропы прынясе на большую частку Беларусі кароткачасовыя дажджы, месцамі чакаюцца навальніцы, дзе-нідзе па паўднёвым усходзе дажджы будуць інтэнсіўныя. Тэмпературны фон істотна не зменіцца: ноччу +10...+17°С, днём +19...+26°С.

БЛИЦ

# Какие меры нужно предпринять, чтобы остановить коррупцию?

Закон «О борьбе с коррупцией» опубликовали для общественного обсуждения на сайте Генпрокуратуры и на Национальном правовом интернет-портале pravo.by.

Нельзя сказать, что общественное обсуждение проекта закона «О борьбе с коррупцией» всколыхнуло общество снизу доверху: жестко боролись с этим злом мы и раньше. А теперь вот начинаем снова — с той же энергией. Не напоминает ли это бег по кругу? Какие меры нужно предпринять, чтобы не возвращаться регулярно к этому вопросу?

**Галина Гринкевич, директор детского сада «Ребенок будущего»:**

— Чтобы искоренить коррупцию кардинально — сложно сказать. Если поверхностно, то — сажать, давать коррупционерам серьезные сроки. Но, чувствую, это коррупцию все равно не остановит. Ну, какие меры надо принять, чтобы, например, экономика нашей республики стала такой, как в Финляндии, страны по численности, по размеру сопоставимой с нашей? Одной строгой дисциплиной уровень жизни не улучшишь. Так и здесь: одними уголовными сроками коррупцию не искоренишь, каждый будет думать, что его «пронесет».




**Александр Дубневский, бывший предприниматель:**

— Для этого нужно улететь на Марс! А если серьезно, то нужно, чтобы как минимум в течение десяти лет не менялись «правила игры», то есть было стабильное законодательство. И чтобы нигде не стояли удобные «вилки», когда, условно говоря, штраф взимается «по усмотрению» от 5 базовых до 50 величин. Все должно быть четко и определенно, а любые «вилки» дают возможность договариваться. И наказание чиновника за несоблюдение закона должно быть рублем — например, суммой в сто раз больше, чем его зарплата!

**Руслан Вашкевич, художник:**

— Может, отменить деньги? Придумать другую форму обмена энергией?.. Коррупция, кажется, почти национальная болезнь. Штрафы, уголовные сроки ведь никого не останавливают. Конечно, прежде всего нужны разумные законы о частной собственности, чтобы предприниматель не ходил с поклоном по инстанциям, чтобы он не был везде запуганным просителем. Собственник должен чувствовать уважение со стороны государства и законов.

**Анатолий Головач, психотерапевт:**

— Есть категория людей, которые получают огромное удовольствие от накопительства, стяжательства. В силу разных причин — неблагополучное детство, плохая наследственность. Это как наркотик. Поэтому чем строже закон, тем лучше, на человека надеяться нельзя. В обществе должны работать жесткие ограничители.

**Алесь Чаховский, продюсер:**

— На мой взгляд, надо сократить аппарат высшего и среднего чиновничества, их наверху слишком много. А оставшимся в разы увеличить зарплаты, чтобы они смогли удовлетворить свои базовые потребности. С другой стороны, с коррупцией можно столкнуться и в автошколе, не только в госучреждении. Панацеи, выходит, нет... Надо изучать опыт — в той же Грузии, например, здорово эту проблему решили, знаете?

**Елена МОЛОЧКО.**

ДА ВЕДАМА!

## Камуналка даражэе амаль на 10%

*У сярэднім за тыповую двушку з 1 верасня будзем плаціць на 40 тысяч рублёў больш.*



Газ, электраэнергія, ацяпленне, тэхабслугоўванне, водазабеспячэнне і водаадвядзенне ўжо двойчы падвышаліся ў кошце ў гэтым годзе — 1 сакавіка і 1 чэрвеня. Чарговае павышэнне намечана на 1 верасня. І яно будзе не апошняе.

*«Паводле звестак Нацыянальнага статыстычнага камітэта, індэкс змены тэмпаў росту намінальнага заробку склаў 9,8%. Значыць, з 1 верасня тарыфы на ЖКП будуць праіндэксаваны на 9,8%, але будуць праіндэксаваны толькі субсідзіраваныя тарыфы, гэта значыць тыя, якія дасягнулі 100-працэнтнага ўзроўню кампенсацыі выдаткаў*, — адзначыў дырэктар дэпартамента коштавай палітыкі Міністэрства эканомікі **Ігар Фамін**. —*Тарыфы на вываз смецця ў асобных рэгіёнах не будуць падлягаць індэксацыі*».

Паводле інфармацыі прадстаўніка Мінэканомікі, узровень кампенсацыі фактычнага сабекошту ЖКП насельніцтвам за 2013 склаў 24,4%, за першае паўгоддзе гэтага года гэты паказчык павялічыўся да 31%. «З улікам тых захадаў, якія прадугледжаны ўказам №550, гэты ўзровень павінен значна ўзрасці пад канец года», — сказаў дырэктар дэпартамента. Так што “жыроўкі” беларусаў у гэтым годзе яшчэ “патаўсцеюць”.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

ЗА РУЛЁМ

## Лоб в лоб

*В Волковысском районе в ДТП погиб 25-летний водитель.*

С 2009 года он 59 раз привлекался к административной ответственности за нарушения правил дорожного движения. 60-е нарушение стоило ему жизни. На легковом автомобиле он столкнулся с рефрижератором при движении со стороны Зельвы в направлении Гродно. «Опель» выехал на встречную полосу, где находился «Мерседес». Судя по траектории легкового автомобиля и наклону головы его водителя до столкновения, он мог пребывать в утомленном состоянии и уснуть за рулем», — сообщили в ГАИ Гродненской области.

Сотрудники Госавтоинспекции предупреждают: усталость за последнюю неделю не первый раз фигурирует в качестве предпосылки для ДТП с различными последствиями. Перепады температур, влажность воздуха (которая то повышается, то понижается) влияют на наше самочувствие. Правилами дорожного движения управление транспортом в утомленном состоянии запрещено. Водители, которые неважно себя чувствуют, все равно ездят, подвергая опасности себя и окружающих. Вместо этого при ухудшении состоянии здоровья лучше остановиться и продолжать поездку после отдыха.

ПРОДОЛЖЕНИЕ ТЕМЫ

# Белорусские мальдивы никогда не станут курортом

***Как пояснили «Народной Воле» в Любанском райисполкоме, меловые карьеры, расположенные в лесу, на месте выработки мела Любанским КСМ, не являются зоной отдыха и не могут быть проданы инвестору для организации самого красивого белорусского курорта.***



Все лето между любанской милицией, сотрудниками лесхоза и отдыхающими, пожелавшими нырнуть в самые голубые воды Беларуси — меловые карьеры, идет настоящая борьба. В прошлом номере «Народной Воли» рассказали о «железном» заслоне, который после совещания у президента о мерах по обеспечению пожарной безопасности лесного фонда, земель сельскохозяйственного назначения и торфяников попытались поставить местные власти. Исполняя приказ, лесники и милиционеры встали грудью на подъездах к меловым карьерам, запрещая спускаться к озерам. А приезжие из Минска, Любани и еще десятка населенных пунктов всеми правдами и неправдами добирались до водной глади.

Признав, что противостояние это будет до тех пор, пока голубая вода стоит в меловых карьерах, один из сотрудников лесхоза сообщил: вся надежда на инвестора. Только бизнесмены, оценив интерес сограждан и туристов, могут организовать место отдыха даже в такой, казалось бы, опасной зоне — глубина любанских карьеров от 18 до 40 метров.

Как выяснилось, два года назад инвестором интересовался и Любанский райисполком: на сайте этого ведомства появилось объявление по поиску бизнесменов, готовых вложить средства в переоборудование места промышленной выработки мела в зону отдыха. Обсуждалась возможность установки навесного дна и обустройство пляжа, что позволило бы людям купаться, снизив количество несчастных случаев, — в год здесь тонут по 5—7 человек.

По рассказам местных, такой инвестор нашелся. Дело осталось за малым — выделением земли, примыкающей к озеру. И процесс остановился: получить в Беларуси землю для коммерческого использования крайне сложно.



Отдыхающим этого не объяснить: в жаркое время сюда приезжают, обходят посты и заслоны и прыгают в голубые воды. Некоторые — в последний раз: на высоком берегу одного из карьеров установлены два памятных знака в виде символических могил. Этот последний знак внимания родственников утонувших стал местной достопримечательностью и не отпугивает приезжих.

Убедившись, что противостояние будет каждое лето, «Народная Воля» связалась с Любанским райисполкомом, поинтересовавшись: не проще ли все же решить вопрос с помощью игроков агротуризма.

*«Поиском инвестора мы сегодня не занимаемся,* — отрубила заместитель по экономике **Татьяна Рубин**. — *Это не природное озеро, а технические карьеры, которые залила вода. На карте природных ресурсов их нет»*.

Вопрос по поиску инвестора действительно поднимался, однако все уперлось в землю, необходимую для оборудования места отдыха.

*«Земля в карьере — это лесные угодья,* — объяснила Рубин, — *которые выделяются только по указу президента. За нашу бытность работы по указу президента никому ничего не выделялось. Поэтому процесс приостановлен»*.

Все, что могут сегодня противопоставить напору отдыхающих районные власти, это силы милиции и лесничества: *«патрулируют милиция, МЧС, лесхоз»*. Вот только у этих служб есть и другие дела: правоохранители следят за порядком, представители лесхоза за вырубкой леса и пожарами. Ни сил, ни желания выставлять каждый день заслон на меловых карьерах у них нет.

Еще один выход — засыпать карьеры, что и должен был сделать Любанский КСМ, завершив в 1998 году выработку мела. Однако кроме средств для этого потребуется еще и инициатива завода, которой не будет — в настоящее время озера «закреплены» за Любанским лесхозом. Это значит, что каждый год в меловых карьерах, у которых нет настоящего хозяина, будут тонуть люди. Единственное, что их остановит, — непогода...

**Елена АНКУДО.**

СУД!

## Андрэй Бандарэнка асуджаны на тры гады калоніі ўзмоцненага рэжыму

Суд Кастрычніцкага раёна Мінска прызначыў былому дырэктару прыватнай інфармацыйна-асветніцкай установы «Платформ інавейшн» Андрэю Бандарэнку пакаранне ў выглядзе чатырох гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму, але за кошт амністыі тэрмін быў скарочаны да трох гадоў.

41-гадовы Бандарэнка прызнаны вінаватым ва ўчыненні хуліганства, злоснага хуліганства і асабліва злоснага хуліганства (ч.1, 2 і 3 арт.339 КК). Прыгавор абвясціла 12 жніўня суддзя Ала Абакунчык.

Адвакат праваабаронцы Дар'я Ліпкіна прасіла суд перакваліфікаваць абвінавачанне на ч.1 арт.9.1 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях (наўмыснае прычыненне цялеснага пашкоджання). Паводле меркавання адваката, пяць гадоў зняволення ў калоніі ўзмоцненага рэжыму, якія запытаў для абвінавачванага пракурор, — празмерна суровае пакаранне ў дачыненні да Бандарэнкі.

Сам Бандарэнка на судзе некалькі разоў прасіў прабачэння ў пацярпелых, прызнаваў сваю віну па другім і трэцім эпізодзе, выказваў гатоўнасць пакрыць маральную і матэрыяльную шкоду. Пацярпелыя ж ніякіх іскаў не заяўлялі, але казалі, што не маюць мэты ізаляваць Бандарэнку ад грамадства.

Пасля аб'яўлення прысуду праваабаронца паведаміў журналістам, што будзе яго абскарджваць, а таксама заявіў, што не збіраецца падаваць прашэнне аб памілаванні.

Андрэй Бандарэнка быў затрыманы 1 красавіка і з таго часу знаходзіцца ў СІЗА №1 МУС.

**БелаПАН.**

КВАТЭРНАЕ ПЫТАННЕ

# Як я збіраўся ўзяць крэдыт на жыллё ў “Беларусбанку”

***Аказалася, што сёння прафінансаваць мне могуць толькі будаўніцтва 5,5 квадратнага метра кватэры.***

На гэтым тыдні “Беларусбанк” вызначыў новыя ўмовы крэдытавання фізічных асоб на фінансаванне нерухомасці. Як кажуць, шчасце звалілася на нашу галаву абсалютна нечакана! Калі раней банк даваў крэдыт на жыллё пад 37,5 працэнтаў гадавых, то зараз усяго пад 35.

Як сярэднестатыстычны беларус з такім жа заробкам (а ў чэрвені ён склаў прыкладна 6 мільёнаў 200 тысяч рублёў), я вырашыў звярнуцца ў “Беларусбанк” з пытаннем: якія ў мяне шанцы пабудаваць кватэрку з іх крэдытнай дапамогай?

— Вы можаце ўзяць крэдыт на будаўніцтва жылля пад 35 працэнтаў, — адразу ж абнадзеіла мяне супрацоўніца банка. — Мы крэдытуем не больш 75 працэнтаў ад кошту самога жылля, але магчымасць выдачы крэдыту і сума вызначаецца банкам, зыходзячы з вашай плацежаздольнасці.

— Я даволі плацежаздольны, — таксама радую дзяўчыну. — 6 мільёнаў 200 тысяч у месяц зарабляю.

— Крэдыты неаплачаныя ёсць?

— Няма.

— Льготныя крэдыты?

— Адсутнічаюць.

— За камунальныя паслугі колькі плаціце?

— Пакуль 160 тысяч у месяц, але з 1 верасня “камуналку” павысяць, — на ўсялякі выпадак удакладніў я.

— З тымі звесткамі, што вы мне прадаставілі, максімальны памер крэдыту для вас — 86 мільёнаў рублёў на 15 гадоў.

— А колькі ў месяц трэба будзе плаціць вам па крэдыце?

— З асноўным доўгам і працэнтамі — прыкладна 3 мільёны.

Нескладаная арыфметыка паказала, што на ўмоўна выдадзены мне крэдыт (гэта прыкладна



8350 долараў) пры сярэднім кошце кватэр на рынку сталіцы 1500 долараў за квадратны метр я магу пабудаваць усяго 5,5 кв. метраў жылля. Ды і ці будзе нехта браць грошы пад такія працэнты? Вялікае пытанне.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

КАМЕНТАРЫЙ ЭКАНАМІСТА

### *Барыс ЖАЛІБА:*

— Гэта камерцыйны крэдыт, але працэнты проста неверагодна высокія! На гэтым тыдні стаўка рэфінансавання знізілася да 20 працэнтаў, а гэта сігнал усім банкам, каб яны таксама знізілі стаўкі на жыллёвыя крэдыты. Такая палітыка, думаю, працягнецца, але пры ўсім тым такія высокія працэнты па крэдытах на жыллё для сярэдняга беларуса — проста непад'ёмныя. Каб нармальна пабудавацца з крэдытам, чалавек павінен зарабляць больш за 20 мільёнаў у месяц. Шмат у каго такія заробкі? Ды і аддаваць жа па працэнтах затым будзеш палову заробленага.

Таму гэтыя крэдыты браць, мяркую, трэба ў крайнім выпадку. Лепш будаваць кватэры праз накапляльныя дэпазіты банкаў, дзе ты павінен сабраць пэўную суму сродкаў, пасля чаго банк адкрывае крэдыт і прафінансуе астатнюю неабходную частку. Але ў гэтым выпадку размова ідзе пра больш заможных беларусаў, якія да гэтага назбіралі грошай. Таму і атрымліваецца, што сёння ў Мінску вельмі шмат кватэр купляюць расіяне. Яны сабе такое могуць дазволіць.

ЭКАНОМІКА

## Малочныя рэкі паплывуць у Расію

Беларусь гатова да канца бягучага года павялічыць пастаўкі ў Расію на 15—50 працэнтаў у залежнасці ад віду прадуктаў харчавання, заявіў віцэ-прэм'ер Беларусі **Міхаіл Русы** па выніках праведзеных у Маскве перагавораў з расійскім віцэ-прэм'ерам **Аркадзем Дварковічам**.

Паводле слоў Міхаіла Русага, пастаўкі **малочнай прадукцыі** могуць быць павялічаны на 40—50 працэнтаў,

**мясных паўфабрыкатаў** — на 15—40 працэнтаў,

**агародніны** — да 40 працэнтаў,

**бульбы** — у два разы.

Дадатковыя пастаўкі беларускай прадукцыі перш за ўсё будуць накіраваны ў Маскву, Санкт-Пецярбург, Калінінградскую вобласць. *«Калі будзе нейкі арыенцір расійскага ўрада на канкрэтны рэгіён, мы гэту патрэбнасць закрыем»,* — паабяцаў Міхаіл Русы. Па яго словах, у цэлым па выніках года экспарт беларускіх прадуктаў харчавання складзе 6,3—6,5 млрд долараў.

ЧУЛІ?

## Канфіскаваны аўтамабіль коштам больш за 2 млрд рублёў



Канфіскацыю прэстыжнай Lamborghini Gallardo Spyder 49 здзейсніла Мінская рэгіянальная мытня. *«Канфіскаваны транспартны сродак 2008 года выпуску належыць грамадзяніну Баліварыянскай Рэспублікі Венесуэла, на тэрыторыю Мытнага саюза быў увезены часова»,* — растлумачылі ў Мінскай рэгіянальнай мытні. У ходзе праверкі мытныя супрацоўнікі высветлілі, што ўладальнік машыны парушыў тэрміны часовага ўвозу, ездзіў з замежнымі нумарамі, за іх прадаўжэннем ў мытню не звяртаўся.

Уладальнік аўтамабіля падазраецца ў парушэнні ч.2 ст.14.7 КоАП Беларусі. Санкцыі гэтага артыкула прадугледжваюць у тым ліку канфіскацыю транспартнага сродку. Матэрыялы справы накіраваны ў суд.

ЖАХ

## За сем месяцаў на дарогах загінулі 332 чалавекі

У ДАІ адзначаюць, што прычыны большасці такіх ДТЗ — перавышэнне ўстаноўленай хуткасці руху і парушэнне правіл абгону, няправільная ацэнка вадзіцелем дарожнай сітуацыі і здзяйсненне неабдуманых манеўраў.

МОДЕРНИЗАЦИЯ

# Пускать ли двоечника в класс?

*В 2015 году у Беларуси есть шанс еще раз попытаться присоединиться к Болонскому процессу. На сегодня его участниками являются 47 стран, в том числе Россия, получившая членство в 2003 году, Азербайджан, Армения, Грузия, Украина (вступили в 2005 году) и другие. Самым «молодым» считается Казахстан (включен в список в 2010 году).*

Заявку на вступление Беларуси в Болонский процесс должны были рассмотреть министры образования стран — участниц Европейского пространства высшего образования на саммите в Бухаресте в 2012 году. Однако «белорусский вопрос» был снят с повестки дня. Причина — Беларусь не соблюдает такие основополагающие принципы, как академическая свобода, институциональная автономия и студенческое участие в управлении высшим образованием.

И вот сейчас, через два года, многие из экспертов констатируют: существенных реформ в образовании так и не произошло. Так стоит ли Европе принимать Беларусь в Болонский процесс, прикрыв глаза на некоторые несоответствия в расчете на то, что она исправится по ходу?

**Андрей Лаврухин**, бывший преподаватель ЕГУ, член Общественного Болонского комитета считает — шансы есть:

*— Даже несмотря на то что все проблемы, которые раньше тормозили вступление, остались. Ведь некоторые страны Средней Азии и Закавказья, где авторитарная система в чем-то еще и более жесткая, чем в Беларуси, являются странами-участницами процесса. На мой взгляд, Беларусь в 2015 году может туда проскочить.*

*Но здесь главное не сам факт вступления, хотя и это довольно существенно (потому что наше невступление стало уже легендарным). Главное — что будет после того, как... В России, Казахстане, например, в основном на формальном уровне все принципы, процедурные моменты соответствуют Болонским требованиям. Но копни глубже — возникает масса проблем. И особенно с тем, что называется «европейскими ценностями». Тем не менее есть предчувствие, что в 2015 году Беларусь может вступить в Болонский процесс. В принципе — позитивный шаг. Но он может стать новым этапом имитации.*

*И вот здесь многое зависит от академического сообщества. Согласится ли оно подыгрывать этим имитациям, инициатором которых будут администрации вузов и Министерство образования? Согласится ли на то, что будет преподноситься как университетское самоуправление, когда ректоров назначают?*



*К примеру, выборность руководителей на административные должности. Россия является членом Болонского процесса. Но есть два государственных вуза, в которых ректоров назначает президент России, — Московский государственный и Санкт-Петербургский. Никто из европейских чиновников не стал возражать, что нарушаются основные принципы и Россию могут исключить из Болонского процесса — потому что это невозможно.*

*То есть вступление в Болонский процесс — дело более легкое, чем те существенные трансформации и реформы, которые, по логике, должны произойти после одобрения заявки.*

Политолог **Юрий Чаусов** также считает, что, конечно же, никакого значительного прогресса в реформировании системы образования Беларуси не произошло:

*— Недостатки, которые отмечались в качестве оснований для предыдущего невключения, остались. Это и тотальный государственный контроль за академической сферой, и отсутствие академических свобод, студенческого самоуправления...*

*С другой стороны, известно, что в Европе есть сейчас настроения на улучшение отношений с Беларусью и, скажем так, на интеграцию Беларуси в те европейские системы, которые не связаны с политическими вопросами, но могут содействовать европеизации Беларуси. Когда мы посмотрим, к примеру, на списки проектов Международной технической помощи, которые недавно утверждены правительством, то как раз на ближайшие два года направление на сотрудничество белорусской системы образования с европейскими университетами и в целом образовательные проекты государственной направленности получили довольно много финансирования за счет Международной технической помощи. Это свидетельствует о том, что есть энтузиазм со стороны белорусских официальных властей все-таки интегрировать страну в Болонский процесс, не реформируя систему образования коренным образов. То есть получить выгоды, не потеряв контроля.*

*А с третьей стороны, у европейских политиков предчувствие, что позитив в этом направлении может стать той вехой, которая позволит говорить хоть о каком-то успехе европейской политики в направлении Беларуси. Пусть небольшое, но достижение, которое заменит собой отсутствие прогресса, например, в «Восточном партнерстве», в диалоге по модернизации.*

*В рамках проекта «Реформум», который реализуется Белорусским институтом стратегических исследований, реформирование образовательной сферы обозначено в качестве одного из двух приоритетов для работы экспертных групп.*

*Так что в следующем году нас ждут интересные события. Я прогнозирую, что попытка попасть в Болонский процесс будет удачной. Критика критикой, но в принципе к ней уже не будут прислушиваться, как прежде.*

Главный редактор портала generation.by **Юрий Сидун** также считает, что сейчас для Беларуси обстоятельства складываются очень удачно.

*— В любом случае это хорошо, что Беларусь присоединится к европейским тенденциям. Но все ведь понимают: это декорация. Тем не менее хочется верить, что какие-то позитивные сдвиги будут. И, возможно, вступление даст какой-то импульс. К примеру, белорусские студенты, а также чиновники от образования будут больше общаться с европейскими партнерами. Если сейчас посмотреть сайты белорусских учебных заведений, большинство контактов сводится к России и к странам так называемого «третьего мира». Будем надеяться, что в случае присоединения к Болонскому процессу простых человеческих контактов с европейцами станет больше, и это в любом случае позитивно.*

**Владимир ЖУРАВОК.**

